Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 270.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 2 снежня 1998 г. № 130 (522) Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## На трактарным заводзе шукалі бомбу

**Учора прыкладна ў сем гадзінаў раніцы на пульт дзяжурнага Мінскай гарадской міліцыі паступіў ананімны званок, што на тэрыторыі трактарнага завода закладзеныя тры бомбы.**

Паведамленне выклікала ў беларускіх спецслужбаў рэакцыю, блізкую да шоку, бо праз некалькі гадзінаў на завод павінен быў прыехаць Аляксандр Лукашэнка. У лічаныя хвіліны на трактарны прыехалі тры групы сапёраў: з вайсковай часткі, са спецпадраздзялення «Алмаз» і службы аховы прэзідэнта. На працягу трох гадзінаў сапёры спрабавалі знайсці схаваныя бомбы. Пры гэтым рабочых МТЗ вырашылі не эвакуіраваць, яны працягвалі круціць гайкі. У 10 гадзінаў сапёры, нарэшце, далі адбой: завод не замініраваны. Праз паўтары гадзіны на МТЗ прыбыў прэзідэнт А.Лукашэнка.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Паперы Хадыкі вывучаюць эксперты

**Брэсцкія мытнікі ў чарговы раз праявілі пільнасць. 26 лістапада яна канфіскавалі ў двух пасажыраў цягніка Мінск—Варшава «крамольныя» паперы.**

У прадстаўнікоў БНФ Юрыя Хадыкі і Алеся Бяляцкага, якія кіраваліся на канферэнцыю ў Польшчу, былі сканфіскаваныя беларускія незалежныя выданні і паперы асабістага зместу, а таксама праваабарончыя дакументы і тэзісы дакладаў, якія яны павінны былі прачытаць у Варшаве. Старшы інспектар мытні А.Кураш матываваў свае дзеянні тым, што гэтая друкаваная прадукцыя мусіць прайсці экспертызу, якая павінна высветліць, ці не ўтрымліваюць дадзеныя матэрыялы абразу гонару і годнасці прэзідэнта РБ і ці не наносяць яны шкоду суверэнітэту і існуючаму канстытуцыйнаму ладу Рэспублікі Беларусь.

**Б.П.**

## Заплаціце – будзе газ

**Доўг Беларусі за расійскі газ павялічыўся з пачатку года ўтрая і склаў 250 мільёнаў долараў ЗША**

Расійскі "Газпром" разгледзіць пытанне аб павелічэнні паставак газу ў Беларусь толькі пасля вырашэння ключавых праблемаў пагашэння доўгу за ўжо пастаўлены газ. Такая заява прагучала падчас перамоваў у Маскве старшыні «Газпрома» Рэма Вяхірава з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам.

*БелаПАН*

## Размятаюць нават соль

**У правінцыі народ вымятае з крамаў усё, што каштуе адносна нядорага. У Магілёве, напрыклад, людзі раптам пачалі скупляць соль, прычым шалёнымі памерамі.**

Паколькі на соль ніякіх «нормаў продажу» не ўводзілася, то некаторыя набывалі мяхамі. Прычынай ажыятажнага попыту стала чутка, што кошт солі ўзрасце да 70.000 рублёў за кілаграм. У выніку, за некалькі дзён спажыванне солі, па словах старшыні аблвыканкама Аляксандра Кулічкова, вырасла ў 5 разоў. Ясна, што ў крамах яе цяпер няма.

А ў Мсціслаўскім, Чэрыкаўскім і шэрагу іншых раёнаў сельсаветы пачалі складаць спісы, па якіх у вясковых крамах будуць прадаваць прадукты ды іншыя дэфіцытныя тавары.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



# Справа Старавойтава: працэс будзе доўгім




*Разам з Васілём Старавойтавым судзяць двух ягоных падначаленых.*

**ПРАЦЭС** над Васілём Старавойтавым, які пачаўся ў мінулы панядзелак, абяцае быць марудным і доўгім. Уявіце: сведкаў толькі па адным з дзевяці эпізодаў больш за 40, а ўсіх іх трэба заслухаць, задаць пытанні, параўнаць адказы. Усяго ж суду прыйдзецца пералапаціць звыш 50 тамоў справы, якую цэлая брыгада следчых збірала амаль год. Што ж там накапалі лепшыя «пінкертоны» з Кіраўска, Бабруйска, Магілёва і Мінска?

Першым і галоўным эпізодам у абвінаваўчым заключэнні з'яўляецца гісторыя пра тое, як двойчы герой сацыялістычнай працы Васіль Старавойтаў і ягоныя бліжэйшыя памочнікі здолелі «прыхватызаваць» адну з лепшых гаспадарак краіны. Маўляў, яшчэ ў 1993 годзе В.Старавойтаў незаконна ўнёс у статут закрытага акцыянернага таварыства «Рассвет» такія змены, у выніку якіх былы калгас стаў, фактычна, прыватнай фірмай Старавойтава і ягоных паплечнікаў.

Аднак задумаемся над такім пытаннем. Магчыма, Старавойтаў сапраўды «прыхватызаваў» калгас і стаў ягоным гаспадаром. Толькі ці азначае гэта, што прысуд, які сам жа Старавойтаў вынес свайму калгасу, памылковы? Яшчэ ў савецкія часы Старавойтаў зразумеў, што на адной дысцыпліне з-пад палкі сучасную гаспадарку не пабудуеш, і пачаў уводзіць рынкавыя метады. Логіка рынку не магла не прывесці яго да простай высновы: у зямлі, як і ў фермы, перапрацоўчага завода, цяпліцы і г.д. павінен быць гаспадар. І вось калі з'явілася магчымасць правесці прыватызацыю, ён гэта зрабіў (суд разбярэцца, наколькі законна). А забяспечыўшы кожнаму з рассветаўскіх аб'ектаў свайго гаспадара, Старавойтаў стаў над імі «бацькам». Аднак праілічыўся. «Бацька» ў краіне ўжо быў, і ён вярнуў былыя парадкі. Тое, што называлася рэформай, стала кваліфікавацца як злачынства, і Старавойтаў трапіў за краты. А ягоны «Рассвет» зноў стаў калгасам, дзе крадуць, працуюць па выхадных і баяцца начальства, як і раней.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**





*Лёс былога старшыні «Рассвета» ў руках суддзі Надзеі Чмара.*

## *Валюта*

***На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску раніцай 1 снежня долар куплялі па 235.000 — 240.000 і прадавалі па 245.000 — 250.000 рублёў. У параўнанні з панядзелкам курс узрос у сярэднім на 15.000 рублёў.***

## *Саміт*

***2 снежня ў Осла (Нарвегія) пачаўся саміт міністраў замежных справаў краінаў-членаў АБСЕ, у працы якога возьме ўдзел і беларуская дэлегацыя на чале з кіраўніком знешнепалітычнага ведамства Беларусі Іванам Антановічам.***

## *Зарплата*

***Амаль палова калгасаў і саўгасаў Магілёўскай вобласці дагэтуль яшчэ не выплацілі зарплату за ліпень і жнівень. Агульная запазычанасць складае больш за 45 мільярдаў рублёў.***

## Чарнобыльскі «Аазіс» Юрыя Хашчавацкага

**Фільм Юрыя Хашчавацкага «Аазіс» адкрыў дэманстрацыйны паказ стужак Міжнароднага фестывалю праваабарончага кіно ў Беларусі.**

Вечарам 30 лістапада работа вядомага беларускага рэжысёра дэманстравалася ў маленькай зале Беларускага саюза кінематаграфістаў, якая не змагла змясціць усіх жадаючых. Перад паказам фільма кіраўнік расійскага Фонду абароны галоснасці Аляксей Сіманаў адзначыў, што ў апошні момант дырэкцыі кінатэатраў «Перамога» і «Піянер», а яшчэ раней «Кастрычнік» і «Масква», пад рознымі прычынамі адмовілі ў прадстаўленні сваіх залаў. *«Любое сапраўднае мастацтва з'яўляецца праваабарончым па сваёй сутнасці, і мне незразумелая пазіцыя ўладаў Беларусі ў дачыненні да нашага фестывалю»,* — падкрэсліў А.Сіманаў.

«Аазіс» расказвае пра людзей, якія жывуць у зоне адсялення на пацярпелых ад Чарнобыля тэрыторыях. Гэтыя людзі прызвычаіліся да радыяцыі, да адсутнасці ўвагі да сябе. Стваральнікі фільма сустракаюцца з «самасёламі», гутараць з імі на розныя тэмы, у тым ліку і аб зоне, якая стала для многіх «аазісам».

*БелаПАН*

*Угодкі Слуцкага паўстання*

# Міліцыя шукае вінаватых

**«ЧП» раённага маштабу здарылася ў мінулую нядзелю ў Слуцку. Актывісты БНФ, якія прыехалі на двух аўтобусах з Мінска, арганізавалі, на думку мясцовых уладаў, несанкцыяванае шэсце ў цэнтры горада.**

У гэты дзень у Слуцку адзначаліся ўгодкі антыбальшавіцкага паўстання 1920 г. Гарадскія ўлады дазволілі тутэйшым актывістам правесці з гэтай нагоды мітынг на мясцовым стадыёне. Але ў гасцей з Мінска была свая праграма святочных мерапрыемстваў. Яны ненадоўга прыехалі ў Слуцк, каб ускласці кветкі да будынка, дзе ў 20-ым годзе знаходзіўся штаб войскаў БНР, а цяпер месціцца раённы музей.

Вадзіцелі высадзілі пасажыраў каля музея і адагналі аўтобусы на некалькі сотняў метраў далей на стаянку. Пасля заканчэння цырымоніі людзі накіраваліся да сваіх аўтобусаў. Мясцовая міліцыя чамусьці палічыла гэта несанкцыяванай дэманстрацыяй і запатрабавала спыніць рух. Фронтаўцы патрабавалі не перашкаджаць ім ісці да аўтобусаў. Падпалкоўнік, які кіраваў ахоўнікамі парадку, прыгразіў, што вінаватыя ўсё роўна будуць пакараныя.

Па нашых звестках, у панядзелак у Слуцк прыязджалі мінскія начальнікі з КДБ і МУС, якія патрабавалі знайсці і пакараць арганізатараў «шэсця». Учора ў сталічную штаб-кватэру БНФ ужо прыходзіў міліцэйскі нарад, які шукаў «адказнага за паездку ў Слуцк».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Пра Слуцк гаварылі ў Вільні

**Беларуская дыяспара ў Літве адзначала гадавіну Слуцкага ўзброенага паўстання**

Дэпутаты Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, Мечыслаў Грыб, Уладзімір Нісцюк, прафесар Анатоль Грыцкевіч і іншыя вядомыя ў краіне людзі ўвайшлі ў склад дэлегацыі, якая выязджала ў Вільню, дзе беларуская дыяспара наладзіла ўрачыстасці, прысвечаныя гадавіне Слуцкага ўзброенага паўстання. З грунтоўным дакладам перад прысутнымі выступіў прафесар А.Грыцкевіч, паэт Славамір Адамовіч прачытаў свае старыя і новыя вершы.

Беларускія парламентарыі ўдзельнічалі таксама ў «круглым стале», праведзеным сумесна з дэпутатамі Сейма Літоўскай Рэспублікі і прысвечаным 50-годдзю Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

*БелаПАН*

# Вертыкаль № 2



*«Наша задача справедливо работать с нашим общим народом. Для этого мы и создаём информационную вертикаль»*, — так тлумачыць з'яўленне «камісараў» на прадпрыемствах Іван Пашкевіч *(на здымку)*, намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі.

Пра гэта ён гаварыў на нарадзе ў Магілёве, куды прыехаў разам з міністрам культуры А.Сасноўскім, міністрам сацыяльнай абароны В.Даргель, міністрам спорту М.Ананьевым і міністрам адукацыі В.Стражавым, каб патлумачыць гарадскому «актыву» сутнасць дзяржаўнай палітыкі. Па словах Пашкевіча, трэба дапамагчы простаму чалавеку разабрацца ў палітыцы. Для гэтага ствараецца яшчэ адна вертыкаль — інфармацыйная. Пры кожным дырэктары цяпер будзе прызначаны намеснік па ідэалогіі.

Трэба змагацца не толькі з апазіцыяй, але і з прафсаюзамі, у тым ліку, з так званымі афіцыйнымі. Па словах Пашкевіча, *«профсоюзы Гончарика идут вразрез с государственной политикой»*.

Трэба адзначыць, што магілёўская вертыкаль ударна выконвае загады земляка-прэзідэнта. У вобласці ўжо амаль 1.000 чалавек займаюцца тым, што тлуміць галаву людзям казкамі пра стабільнасць, рынкавы сацыялізм і падкопы апазіцыі. Прычым, большасць з іх атрымліваюць за гэта грошы. Кіраваць імі будзе былы старшыня парткама аб'яднання «Хімвалакно» А.Мельнікаў, якому днямі далі пасаду намесніка старшыні Магілёўскага гарвыканкама.

Некалькі думак выказала і міністр Вольга Даргель. З новага года, па яе словах, пенсіі будуць павялічаныя, максімальная складзе аж 3,5 мільёны рублёў. А ў перспектыве беларусаў чакае павелічэнне пенсійнага ўзросту: да 60 гадоў у жанчын і 65 гадоў у мужчын.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# «Трасянка» ў Беластоку

**У Беластоку збіраліся польскія і беларускія навукоўцы, каб абмеркаваць, на якіх мовах размаўляюць у памежных рэгіёнах і як вызначаюць сваю нацыянальную прыналежнасць.**

Арганізавала канферэнцыю кафедра беларускай культуры Беластоцкага універсітэта, якой загадвае Эльжбета Смулкова, былы пасол Польшчы ў Беларусі.

Палякі расказвалі пра гаворкі кашубаў, сілезцаў, мазураў, лужычан, а таксама горача дыскутавалі са сваімі беларускімі калегамі адносна шырока распаўсюджанай сёння на Беларусі «трасянкі» — сумесі, на якой размаўляе немалая частка насельніцтва. Некаторыя польскія навукоўцы лічаць, што беларускі народ заўжды карыстаўся далёкай ад літаратурнай мовы трасянкай. Нашы, наадварот, пераконвалі, што трасянка шырока распаўсюдзілася толькі ў апошнія дзесяцігоддзі, калі русіфікацыя беларусаў дасягнула вяршыні і абсалютны ўплыў набыло маскоўскае тэлебачанне. Запісы этнографаў XIX або пачатку XX стагоддзя паказваюць, што мова беларускіх сялянаў тады не была так, як сёння, засмечаная русізмамі і была значна бліжэй да літаратурнай.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Юбілей «прэзідэнцкага» універсітэта

*Магілёўскі педагагічны інстытут, які цяпер завецца універсітэтам, адзначыў 85 гадоў з часу заснавання*

У 1913 годзе ў Магілёве адчыніўся настаўніцкі інстытут. Першы выпуск складаўся з 35 чалавек. А ўсяго за прайшоўшыя гады ВНУ выпусціла больш за 40.000 педагогаў. У 1997 годзе педагагічны інстытут быў ператвораны ва універсітэт. Сёння ў ім спасцігаюць навуку амаль 6.000 студэнтаў.

Рэктар універсітэта Міхаіл Аўласевіч лічыць, што *«особую ответственность на всех накладывает сознание того, что среди выпускников — первый всенародно избранный президент Беларуси Александр Лукашенко... это сознание и ответственность всемерно мобилизирует, помогая держать планку на уровне, достойном звания «президентского вуза»*.

**Іван ЗАСАДА**

# Мітрапаліт благаславіў на подзвіг

**Прафесар Гомельскага універсітэта Уладзімір Анічэнка атрымаў благаслаўленне мітрапаліта Філарэта на царкоўны подзвіг.**

Пад кіраўніцтвам спадара Анічэнкі лінгвістычная лабараторыя ГДУ павінна распрацаваць «Царкоўнаславянска-беларускі слоўнік царкоўнаслужбовай тэрміналогіі». Прафесар лічыць, што стварэнне такога слоўніка даўно наспела, бо існуючы «Кароткі беларускі тэрміналагічны царкоўны слоўнік» мітрапаліта Мікалая (Таронта,1992) не толькі занадта кароткі, але не ўсе ягоныя тэрміны сугучныя літаратурным нормам і беларускаму правапісу.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*Надвор'е*



# Маразы адступяць

*Моцныя маразы ў Беларусі будуць стаяць да 4 снежня і толькі потым крыху адступяць. Такую інфармацыю паведаміў НАВІНАМ Гідраметцэнтр*

Паводле дадзеных сіноптыкаў, у першую зімовую ноч рэкорд нізкай тэмпературы быў зарэгістраваны ў Клічаве і Слуцку, дзе ртутны слупок тэрмометра знізіўся да адзнакі -27 градусаў.

Сіноптыкі прагназуюць, што сёння ў Мінску, Мінскай і Гомельскай абласцях будзе -16—18 градусаў, Магілёўскай, Віцебскай -18—20, у Брэсцкай -12—14. Вецер усходні, будзе ясна. А вось у пятніцу магчымы лёгкі сняжок і, галоўнае, стане цяплей прыкладна на 5 градусаў.

**А.П.**

*КАДРЫ*



*Чалавеку пашанцавала!*

# Паслоў цягне ва універсітэты

**З**АМЕЖНЫЯ паслы чамусьці любяць нашу моладзь. Напэўна таму, што з ёю лягчэй размаўляць, бо ў малодых людзей няма ў галаве камуністычных штампаў. Сёлета амерыканскі пасол Дэніэл Спекхард выступаў перад студэнтамі Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, а раней там жа пабываў ягоны папярэднік Кэнет Ялавіц.

Было б натуральна, каб і наш пасол у ЗША Валерый Цапкала расказваў пра Беларусь і беларуска-амерыканскія дачыненні дзе-небудзь у Гарвардскім або Каліфарнійскім універсітэце ў Штатах. Аднак і яго пацягнула менавіта ў Гродзенскі універсітэт, бо, як вядома, Амерыка для яго пакуль закрытая (да вырашэння канфлікту вакол Драздоў).

Тэма Драздоў прагучала і ў выступе В.Цапкалы. Студэнты зразумелі з яго наступнае. Амерыканцы ўхапіліся за Венскую канвенцыю, якую нібыта парушылі беларускія ўлады. Але канвенцыя, маўляў, абавязвае дыпламатаў кантактаваць з усімі групамі насельніцтва, нават з апазіцыяй. А раптам нехта з візіцёраў прыйдзе да пасла ў госці і пранясе з сабой гранатамёт? Вось такі намёк, і разумей яго як хочаш. Ці так, што апазіцыя ў нас ненадзейная і гатовая дыпламатаў заходніх перастраляць, а Лукашэнка іх якраз хацеў лепей абараніць. Ці то ўлады пабойваліся, што ў замежных амбасадах пачнуць ствараць партызанскія атрады з апазіцыі?.. Хаця, з другога боку, В.Цапкала сказаў таксама, што паслу амерыканскаму ў прынцыпе давяралі, і ніхто не збіраўся правараць яго з мінашукальнікам.



*Беларускі пасол у ЗША Валерый Цапкала расказваў студэнтам у Гродне пра Драздзы, Біла і Моніку.*

Што датычыць непалітычных адносінаў паміж нашымі дзвюма краінамі, дык, па словах пасла, нам бліжэй у галіне эканамічных інтарэсаў і стандартаў Лацінская Амерыка. Не супадаюць у нас і сямейніцкія традыцыі. Паколькі скандал вакол Б.Клінтана і М.Левінскі пасол патлумачыў тым, што амерыканцы надзвычай сямейныя людзі і вельмі цэняць шлюб. Хацеў ён ці не, але намёк атрымаўся зразумелы для публікі. Як усім добра вядома, наш прэзідэнт пакідае ў вёсцы сваю жонку і гадамі жыве ў сваёй рэзідэнцыі без яе, але народ на гэта не зважае і маўчыць нават патрыярх царкоўны, які павінен дбаць пра захаванне ды ўмацаванне сям'і. Хаця, у словах пасла можна было заўважыць і пэўнае спачуванне амерыканскаму прэзідэнту. Маўляў, амерыканская прэса піша ўсё, што захоча. А вось у нашай, аказваецца, ступень адказнасці значна вышэй.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

 



# В СНГ без перемен

**Прошедшее в Москве заседание глав правительств СНГ, как и предшествовавшая ему встреча премьеров союза «четырех» — России, Казахстана, Киргизии и Беларуси, не принесла вразумительных результатов.**

Впрочем, на бумаге вроде все выглядит пристойно. «Четверка» за счет присоединения к ней Таджикистана официально превращается в «пятерку». Осталось только окончательно подтвердить это на саммите президентов, который намечен на начало декабря. Премьеры также одобрили предполагаемые изменения в договоре о Таможенном союзе и поддержали образование в рамках СНГ зоны свободной торговли.

Только вот реальных успехов не выявлено никаких. Таджикистан и так фактически находится на положении российского протектората, и его вступление в «четверку» нисколько не свидетельствует о тенденции к усилению интеграции. Попытки создать в рамках всего СНГ зоны свободной торговли обречены на провал. Даже «четверке» не удается создать единое таможенное пространство, количество разногласий в этом вопросе исчисляется сотнями. А после того как в октябре во Всемирную торговую организацию (ВТО), членство в которой исключает возможность существования таможенных союзов с не входящими в нее государствами, вступила Киргизия, даже на разговорах о едином таможенном пространстве в СНГ можно поставить крест. Тем более что вовсе не один Бишкек, но и все остальные члены Содружества стремятся поскорее присоединиться к ВТО.

Главной интригой заседания премьеров стало не обсуждение вышеуказанных вопросов, а попытки исполнительного секретаря СНГ Бориса Березовского взять под свой полный контроль управленческие структуры Содружества. Он предложил придать исполкому СНГ функции некогда существовавшего Координационно-консультативного комитета, который стал бы третьим после советов глав государств и правительств органом в иерархии Содружества. Однако управленческие посты в аппарате СНГ привлекают не только российского олигарха, но и сотни закрепившихся в нем чиновников. Они и оказали сопротивление реформаторским планам Березовского еще на стадии их зарождения. Не понравилась активность Березовского и в отдельных столицах стран СНГ. Узбекский президент Ислам Каримов вовсе отказался принимать Березовского в Ташкенте, а затем запретил своему премьеру Уткуру Султанову приезжать на московскую встречу. Между тем именно Султанов должен был на ней председательствовать. Пришлось председательские обязанности исполнять Евгению Примакову. В итоге столь волнующий Березовского вопрос так и не был решен.

Пока в Москве премьеры решали вопросы углубления интеграции, жизнь шла своим чередом. Ратующий за максимальное сближение Минск обнародовал лимиты товаров, разрешенных для вывоза за границы республики простыми гражданами, в том числе на интегрируемое пространство.

**Александр ИВАНОВ,**
*обозреватель журнала «Эксперт» (Москва)*



# ОАО «Россия»: такой фирмы больше нет

Что делает фирма, которая берет кредит, но не может заработать достаточно денег для его возвращения в срок? Правильно, фирма эта берет новые кредиты в другом месте, чтобы расплатиться с первым кредитором. Потом, если дела у фирмы не поправляются, она обращается к третьему, к четвертому... В итоге фирма оказывается перед толпой недружелюбных кредиторов без всяких шансов перезанять или как-то еще урегулировать свои долговые проблемы. Что происходит с такой фирмой? Ее финансовые активы замораживают, а недвижимое имущество продают с молотка? Ответ неправильный. Правильный ответ: фирма перерегистрируется и начинает новую жизнь с нерастраченной энергией и активами, но без прежних долгов.

Таким образом, первый и главный совет — России надо перерегистрироваться. В другую страну. Не опускаясь, конечно, до подставных лиц, хорошо бы на том же месте учредить страну с другим названием. Можно, например, перерегистрироваться в Союз Свобдных Субъектов России — СССР (не путать с СССР!), и пусть 130 миллиардов долларов российского внешнего долга взыскивают с РФ, настоящее местопребывание которой неизвестно... И — новая жизнь, новые займы, новые программы реструктуризации.

В этом предложении нет ничего принципиально нового. Помните 1917 год? Кто не помнит, пусть поверит на слово: займы, предоставленные Российской империи, были признаны недействительными новым государством, зарегистрированным на месте бывшего. Большевистская Россия поступила в строгом соответствии с классической схемой ухода от долгов. Причем индивидуальное частное предприятие (ИЧП) «Большевик» — а с политической точки зрения страна стала индивидуальной собственностью одной политической группы — обкатало эту схему ухода от долгов задолго до ее появления в современной форме.

Свободное от предрассудков и долгов прошлого ИЧП крепло и расширялось, став со временем ЗАО «СССР». Мы всегда точно знали, что наше общество — закрытое, а вот что акционерное, догадались только когда учредители (Украина, Беларусь, республики Балтии и другие) начали выходить со своими долями имущества. Тут все поняли, что Союз нерушимый вовсе не означает Союз неделимый.

Сравнение Союза с гигантской корпорацией было особенно популярно среди советологов эпохи расцвета застоя. Лично я впервые услышал его из уст авторитетного британского исследователя советской экономики Фила Хансона. Он довольно убедительно рассказывал, что СССР — это страна-корпорация, управляемая советом директоров (Политбюро). И знаете, что он считал одним из главных доказательств своей теории? Советские средства массовой информации. Все они без исключения, утверждал Хансон, играют роль внутрикорпоративных изданий, которые: а) объясняют акционерам и служащим корпорации, какой замечательный у них подобрался совет директоров, и особенно председатель, как много они делают на благо компании; б) побуждают акционеров теснее сплотиться вокруг совета директоров, а служащих — еще более беззаветно трудиться, максимально точно выполняя указания главных управляющих. И я как профессиональный журналист со всем этим вынужден был согласиться.

Но корпорация, так корпорация. Они сами подсказали нам решение накопившихся к 1991 году долговых проблем. ЗАО «СССР» было перерегистрировано в открытое общество «Россия», которое, правда, не отказывалось от старых долгов, но просило кредиторов на время о них забыть. Новая компания, новая жизнь, новые долги... Акции перерегистрированной страны снова стали пользоваться спросом, и за относительно короткий срок ОАО «Россия» сумело получить кредитов на несколько десятков миллиардов долларов.

Недавно неожиданно выяснилось, что долги отдавать нечем. Как известно, только до конца этого года Россия обязана вернуть западным кредиторам около 4 млрд. долларов, а в следующем году — более 17 млрд. долларов. Можно, конечно, попытаться эти деньги заработать путем увеличения экспортной выручки. Но этот способ россиянам явно не подходит.

Остается, похоже, одно проверенное годами и практикой средство: снова перерегистрироваться в какое-нибудь открытое общество, но уже с ограниченной ответственностью. Скажем, отпустить на свободу Калмыкию с ее густо дотационным бюджетом, и получится совсем другая страна, а с ней — новая жизнь, новые реформы, новые долги.

**Михаил БЕРГЕР,**
*главный редактор газеты «Сегодня» (Москва)*

# Германия предлагает первыми не стрелять

**По мнению экспертов, в *НАТО* назревает столкновение между Германией, с одной стороны, и США, Великобританией и Францией, с другой.**

Как передает агентство Франс-пресс, Бонн предложил пересмотреть стратегию *НАТО*, которая предусматривает нанесение превентивного ядерного удара в случае военного конфликта. Отказ от этой стратегии является одним из пунктов предвыборной программы «зеленых», которые вошли в правящую коалицию ФРГ. Быстрота, с которой правительство Герхарда Шредера выдвинуло это предложение, застала врасплох ядерные державы — члены *НАТО*. Соединенные Штаты живо отреагировали на поступившее предложение, которое «вызвало большую тревогу». Великобритания и Франция еще не заявили о своем отношении, но эксперты полагают, что оно будет тоже отрицательным.

Предлагаемое немцами неприменение ядерного оружия первыми повторяет старую теорию русских и китайцев, заметил один дипломат. Из того же источника стало известно, что немецкая инициатива поставила перед *НАТО* действительно серьезную проблему. Подчинить такого тяжеловеса, каким является Германия, будет много труднее, чем добиться послушания от более мелких членов альянса.

Североатлантическая стратегия ядерного сдерживания основывается в первую очередь на тактическом и стратегическом американском оружии преимущественно корабельного базирования. С 1990 года в Европе не осталось американского ядерного оружия класса «земля — земля» средней и малой дальности. По мнению независимых экспертов, США оставили на европейской земле около 150 единиц ядерного оружия класса «воздух — земля». Возможными местами размещения этого оружия эти эксперты считают семь стран альянса: Германию, Великобританию, Италию, Турцию, Нидерланды, Грецию и Бельгию.

**Валерия ШАБАЕВА**

# «Наш дом — Беларусь у XXI стагоддзі»

Культурніцкае аб'яднанне моладзі «Будзіны» пры падтрымцы дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля», Беларускай асацыяцыі журналістаў, Таварыства беларускае мовы абвяшчае II-гі тур конкурсу:

**Да ўдзелу ў конкурсе запрашаем дзяцей і падлеткаў ад 6-гадовага да выпускнога ўзросту.**

Конкурс праходзіць у трох жанрах: ***мастацтва, паэзія, проза***.

Запрашаем узяць удзел у пяці намінацыях з падтэмамі:

**1. «Беларусь — наша Бацькаўшчына, наша Маці»:**

*а) Край наш — дзівосны прыстанак загадак і цудаў. (М.Гусоўскі). б) Беларусь, прачынайся! Я цябе абуджаю. (Ул.Караткевіч).*

**2. «Беларусь — наш Дом, наш Храм»:**

*а) Кінь вечны плач свой аб старонцы. (М.Багдановіч). б) Беларусь! Ты ўсёй Зямлі акраса. (А.Русецкі).*

**3. «Беларусы — Еўрапейскі народ»:**

*а) Дык жа ўцям! На Беларусі — Жывуць Беларусы! (Я.Купала). б) Беларусь, твой народ дачакаецца, залацістага, яснага дня! (М.Багдановіч).*

**4. «Абаронім наш дом — Беларусь!»:**

*а) Над нашай Незалежнасцю лунае Касцюшкавага меча блаславенне! (Р.Барадулін). б) Асланяйце Беларусь Святую! Вечны той, хто родны Край ратуе! (Р.Барадулін).*

**5. «Выратуем Беларусь ад чарнобыльскай бяды»:**

*а) Артыкул, верш, малюнак, аповед. б) Ідэі, праграмы і праекты сацыяльнай абароны і падтрымкі «Дзяцей Чарнобыля».*

**Да конкурсу ў пятай намінацыі запрашаюцца студэнты ВНУ!**

Падводзіць вынікі II-га туру будзе аўтарытэтнае журы ў складзе: Рыгор Барадулін — народны паэт Беларусі (сустаршыня журы), Генадзь Грушавы — прафесар (сустаршыня журы); мастакі: Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Алесь Шатэрнік, Хведар Ладуцька, Яўген Кулік, Сяргей Крыштаповіч; паэты: Сяржук Законнікаў, Генадзь Бураўкін, Міхась Скобла, Артур Вольскі; пісьменнікі: Міхась Тычына, Уладзімір Арлоў, Васіль Сёмуха, Алесь Разанаў.

**Конкурс мае праходзіць з 1 лістапада 1998 года па 30 студзеня 1999 года.**

**27 лютага адбудзецца святочны фэст-узнагароджанне пераможцаў і віншаванне ўдзельнікаў конкурсу.**

Для пераможцаў прадугледжаныя ўзнагароды і каштоўныя прызы, для ўдзельнікаў — заахвочвальныя падарункі.

**Свае працы спадарства можа даслаць на адрас: а/с № 33, Мінск-134, 220134, Беларусь.**

У метрыцы да працы, дасланай на конкурс, належыць пазначыць абавязкова: адну з намінацыяў, да якой належыць праца; адну з падтэмаў у гэтай намінацыі; свой узрост; хатні адрас, тэлефон (калі ёсць). Калектыўныя працы павінны мець спіс усіх удзельнікаў. Падайце таксама адрас вашай навучальнай установы.



 

*Футбол*

# Кто подхватит сыр...

**Борис ТАСМАН**



Мы уже знакомили читателей со своей оценкой реалий и перспектив национальной сборной. Сегодня поговорим о другой составляющей футбольного хозяйства — клубах.

Титул чемпиона Беларуси впервые достался могилевскому «Днепру-Трансмашу», победившему с завидной легкостью и уверенностью. Поздравляем могилевчан, тем более, что перед началом сезона предсказать их успех не решался, пожалуй, никто. Серебряные медали — у дебютанта высшей лиги БАТЭ (Борисов), бронзовые — у «Белшины» (Бобруйск).

## Стрельцов

В прошлое межсезонье руководство двух могилевских клубов — «Днепра» и «Трансмаша» — договорились об образовании единого футбольно-хозяйственного механизма. Компиляция семилетнего опыта участия днепровцев и их президента и главного тренера Валерия Стрельцова в высшей лиге чемпионатов страны и финансовой базы «Трансмаша» (при поддержке города) дала удивительный результат. Стрельцов, бессменно возглавляющий «Днепр» в течение почти десятилетия, создал клубную инфраструктуру, для которой тщательно подбирает людей. Он знает, на кого делать ставку, во что или в кого вкладывать деньги, как их экономить. К примеру, могилевчане в подготовительный период не стали выезжать в Болгарию, Словакию, Россию либо на Кипр, а провели плодотворные сборы в Пинске. По ходу чемпионата они доказали правомерность своего выбора.

Тренерский коллектив состоит из пяти специалистов, медицинская и административная группы — каждая из трех человек. Коллектив игроков формируется исходя из реально небольших финансовых возможностей. Потому основу составляют местные футболисты, воспитанники могилевских, в некоторых случаях — минских, витебских футбольных школ. В игровом ансамбле состоялся удачный симбиоз опытных Сергея Астапчика, Владимира Шунейко, Эдуарда Болтрушевича, Ярослава Свердлова, Владимира Солодухина с талантливой молодежью — Виталием Ланько, Дмитриями Лихтаровичем и Огородником, Евгением Козловым. Вернувшись в родные пенаты после «одесских гастролей», предстал в новом качестве Игорь Чумаченко.

Виктория беззвездного могилевского клуба — результат многолетней скрупулезной организационной, селекционной и тренировочной работы коллектива, созданного Стрельцовым. Триумф могилевчан выглядит особенно ярко на фоне небрежного отношения «отцов» Витебска к «Локомотиву-96»: одна из лучших команд страны — на грани развала.

Нелишне вспомнить, что в 96-м «Днепр» занял в чемпионате страны 9-е место, а «Трансмаш» победил в турнире второй лиги, в 1997-м днепровцы поднялись на четвертую ступеньку, а машиностроители закрепились в высшей лиге (14-е место). Обе команды потеряли в межсезонье своих звезд — игроков национальной сборной Чайку и Седнева. И тем не менее — успех. Есть у него, правда, и объективные причины, которые ничуть не умаляют свершенного Стрельцовым и К°. Но сказать о них необходимо.

## Хвастович

Восьмой чемпионат Беларуси готовился и проходил в беспрецедентно скандальной атмосфере, которая возникла в ЗАО «Динамо» (Минск). Бизнесмен Евгений Хвастович при попустительстве прежних руководителей клуба, под крылом которого существовали две сильнейшие белорусские команды «Динамо» (Минск) и «Динамо-93», пробрался к практически единоличному господству, приобрел за бесценок контрольные пакеты акций еще двух команд высшей лиги, ставших на грань исчезновения — «Молодечно» и «Атаки».

Переставляя игроков и тренеров словно пешки в шахматной партии, Хвастович обескровил четыре коллектива, продав в дальнее и ближнее зарубежье около двух десятков лучших белорусских футболистов, как правило, членов национальной сборной. Можно только предполагать, куда девались приобретенные в сделках миллионы долларов. Это является предметом расследования соответствующих органов, от которых сейчас Хвастович и скрывается в Германии.

При этом с каждой продажей игроков команды все больше бедствовали. Сначала грянул скандал в «Атаке», тренер которой Яков Шапиро быстрее других разобрался в финансовой стратегии своего патрона и увел вместе с собой в борисовский БАТЭ большую часть футболистов. Затем стало дышать на ладан «Молодечно». «Пожар перебросился» в динамовские команды Минска, игроки которых не получали зарплаты чуть ли не полгода. Хвастович кормил игроков и тренеров обещаниями, а сам тем временем повсюду трубил о передаче чемпиона страны минского «Динамо» в государственные руки.

Госчиновники, однако, молча и безучастно наблюдали за гибелью флагмана отечественного футбола. Хвастович наглел, поставив условием участия «Динамо» и «Динамо-93» в чемпионате Беларуси отставку с поста президента Белорусской федерации футбола (БФФ) Евгения Шунтова. Угрозу свою динамовский босс осуществить не решился, но через два месяца у него появился могущественнейший соратник по идее: устранения Шунтова с футбольного трона потребовал президент Беларуси Александр Лукашенко, поставив в вину ему (Шунтову, а не Хвастовичу!) невыплату денег динамовцам. Хвастович странным образом выпадал из поля зрения властей, пока не стал претендовать на положенные «Динамо» и «Динамо-93» за выступления в еврокубковых турнирах немалые деньги (около 300 тысяч швейцарских франков).

В итоге все закончилось следующим образом. Клуб «Атака» был исключен БФФ из высшей лиги и отправлен во вторую, т.е. последнюю. «Молодечно» еще до чемпионата было отдано на откуп городским властям, которые спасли команду от уничтожения. «Динамо-93» прекратило свое существование на экваторе чемпионата, его тренер Людас Румбутис ушел в отставку, а игроки получили статус «свободных агентов» и разбрелись по другим белорусским командам. Вольную обрели и футболисты «Динамо», но большинство из них подписало контракты с новым клубом «Динамо-Минск», учредителями которого стали столичный горисполком, министерства спорта и внутренних дел, Белорусское физкультурно-спортивное общество «Динамо», «Беларусбанк», «Аливария», «Белавиа» и «Белтелеком». Председателем совета акционеров нового ЗАО стал мэр Минска Владимир Ермошин, генеральным директором и главным тренером — Михаил Вергеенко, который сохраняет и должность главного «коуча» национальной сборной, исполнительным директором — зампред Белсовета «Динамо» Геннадий Божко.

Передряги отбросили шестикратного чемпиона страны на беспрецедентно низкое для него 8-е место.



Бывший «олигарх» белорусского футбола Евгений Хвастович вынужден теперь скрываться в Германии.



Евгений Шунтов стал «яблоком раздора» между белорусским правительством и УЕФА.

## Федерация

Динамовская эпопея стала детонатором более масштабного конфликта — между белорусским правительством и руководством Европейского союза футбольных ассоциаций (УЕФА). Вице-премьер Владимир Заметалин, проявив недюжинные юридические и дипломатические способности, сумел доказать УЕФА, что не президент Лукашенко, а вся белорусская футбольная общественность не хочет больше видеть Евгения Шунтова президентом БФФ, что государство не вмешивается в дела общественных организаций, что сам Шунтов не желает более возглавлять федерацию. Шунтов же, чувствуя поддержку УЕФА, вел двойную игру: мол, я бы и рад уйти, но последуют санкции, влекущие за собой международную изоляцию белорусского футбола. На исходе лета внеочередная отчетно-выборная конференция избрала президентом БФФ «главного авиатора» страны Григория Федорова. Европе пришлось признать легитимность происшедшего.

Шунтов действительно немало сделал, чтобы отправить белорусский футбол в тот подвал, в котором он сейчас пребывает, но технология его отстранения вызывает сомнения. К тому же имеет место запаздывание реакции власть предержащих, по крайней мере, года на три.



*Новый президент Белорусской федерации футбола Григорий Федоров.*

Несколько примеров. Из-за нерасторопности БФФ белорусские клубы на год позже (в 1993-м), чем могли, вступили в еврокубковые турниры. Руководство федерации не предприняло никаких мер, чтобы не допустить участия в высшей лиге нескольких клубов, находившихся под юрисдикцией одного хозяина. Ничего подобного в цивилизованных державах и в помине нет. Ядовитые семена, брошенные в футбольную почву Хвастовичем, проросли и принесли разрушительные всходы.

Когда почти вся футбольная общественность пришла к пониманию необходимости реформирования чемпионата страны в высшей лиге путем ее сокращения до 12 клубов и создания высококонкурентной двухэтапной системы розыгрыша, лидеры БФФ заявляли о своем неприятии каких-либо пертурбаций в этой сфере. Прошедшей весной жизнь, казалось, подталкивала к безболезненному сокращению высшей лиги: в Могилеве пришли к выводу, что три команды город не потянет, достаточно будет двух. «Атака» была спущена по этапу. Оставалось 14 — вполне удобное число для переходного чемпионата. Нет — вернули могилевское «Торпедо-Кадино» и солигорский «Шахтер». Лига стала еще слабее. Теперь в сборной только один представитель чемпионата Беларуси — Андрей Сацункевич.

Несколько лет назад президент тогда еще «Днепра» Валерий Стрельцов пытался организовать профессиональную футбольную лигу (ПФЛ), прерогативой которой был бы розыгрыш чемпионатов страны (так происходит во всех странах, в том числе, в России). Инициатива была на корню задушена БФФ — кто же добровольно отдаст кормушку в чужие руки?!

В итоге деградационная деятельность, точнее, бездеятельность БФФ привела к краху сборную и клубы. Национальная команда заняла последнее место в отборочном турнире чемпионата мира-98, пропустив вперед Латвию и Эстонию, которые никогда не добивались заметных результатов даже на всесоюзной арене.

Прежде в еврокубках минское «Динамо» имело частные успехи: ничьи с германским «Вердером» — 1:1 (1993), римским «Лацио» — 0:0 (1994), победа над тем же «Вердером» — 2:1 (1995). Правда, в гостях наши терпели сокрушительные поражения. Но вот в 95-м повергли венскую «Аустрию» — 2:1, 1:0 и вышли в третий круг Кубка УЕФА. В следующем сезоне минчане добрались до той же стадии. В прошлом году «Динамо» (Минск), «Белшина» (Бобруйск), МПКЦ (Мозырь) преодолели начальную стадию евротурниров, а «Динамо-93» в Кубке Интертото выиграло два матча из четырех — у голландского «Херенвена» — 1:0 и польской «Полонии» — 4:1 (в гостях!). Нынешним же летом весь наш квартет с грохотом пролетел мимо еврокассы: «Динамо» в Кубке чемпионов уступило рижскому «Сконто» — 0:0, 1:2, витебский «Локомотив-96» в Кубке кубков — болгарскому «Левски» — 1:8 (!), 1:1, «Белшина» — еще одному софийскому клубу — ЦСКА — 0:0, 1:3, «Днепр-Трансмаш» (уже тогда безоговорочный лидер нашего чемпионата) — венгерскому «Дебрецену» — 2:4, 0:6 (!). В восьми матчах — три ничьи и пять поражений с леденящей болельщицкие души разностью забитых и пропущенных мячей — 6:24.

Неудачу одного клуба можно было бы расценить как случайность, двух — как гримасу фортуны, но провал четырех — жестокая закономерность.

Пока новое руководство федерации каких-то новаций не предложило. Будем терпеливы. Чтобы раз отрезать, нужно семь раз отмерить. Одно настораживает: у белорусского футбола хоть и появились новые кормчие, но ведь и старые остались при власти: Курбыко — снова вице-президент, Жук — начальник управления по проведению соревнований, Шунтов — член исполкома.

Будто бы не изучали все мы в детстве гениальные опусы Ивана Андреевича Крылова, в которых подобная ситуация интерпретируется по-разному: «А вы, друзья, как ни садитесь — всё в музыканты не годитесь!» Или: «Лисица видит сыр — лисицу сыр пленит!» Главное, чтобы «сыр выпал», а уж подхватить его всегда найдется кому. Но при чем тут футбол?!

Создание ПФЛ и реформирование высшей лиги — вот звенья, за которые можно вытянуть всю цепь клубного белорусского футбола. Но кто за это возьмётся?

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1268 Нумар падпісаны ў друк 01/12/98 (15:00) Наклад — 18.270